ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ
ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 8 (2462)
22 лютага 1996 г.
Выдаецца з 1955 г.
Цана 1000 рублёў.

## НАШЫ ПОМНІКІ



**Навагрaдскія ўзгоркі і навагрaдскія славутасці чалавека неабыякавага вабяць і зачароўваюць у любую пару года. Летнімі днямі на замчышча, да капца -- гары, насыпанай удзячнымі землякамі ў памяць Адама Міцкевіча, у яго музей прыходзяць турысты, групамі і па адным, госці горада, гуляюць мясцовыя жыхары. Зімой, асабліва такой снежнай і марознай, як сёлета, і старажытны замак, і Дом-сядзіба Адама Міцкевіча, вялікага паэта Беларусі і Польшчы, і яго помнік, ахутаны чыстай, халоднай беллю, быццам скаваныя летаргічным сном, стаяць яны ў чаканні цяпла і сонца.**

**НА ЗДЫМКАХ: помнік Адаму Міцкевічу ў Навагрaдку; Дом-сядзіба вялікага паэта.**

**Фот. надзя СЯМЁНАВА.**




## ПРА МАЛОДШАГА СЫНА ЯКУБА КОЛАСА

# БРАТ МІХАСЬ

Свайго Міхаську Якуб Колас з асаблівай пяшчотай любіў. Патураў яму, не быў такім строгім, як са старэйшымі Юркам і Данілам. Калісьці і дзядзька Антось заступаўся за самага меншага пляменніка Міхася, нават калі той быў вінаваты, а бацька браўся за папругу.

-- Ты, брат, не вучы дзяцей вяроўкаю, а добраю гаворкаю. Што ты возьмеш цяпер з малога?.. Апошні сынок -- ён пацехапестунок, ды бачыш, вунь, адзёр яго мучыць.

Такіх памяркоўных, мудрых дарадцаў у жыццёвых сітуацыях, роўных дзядзьку Антосю, паэт не сустракаў. Шмат чаго ён пачарпнуў з гэтай чыстай крыніцы дабрыні, духоўнай спагады, разумення чалавечай псіхалогіі. Не забыўся пляменнік простыя, трапныя, змястоўныя і вечна жывыя словы дзядзькі: "Ад добрага кораня -- добры і гучок".

Альбуць, вясну, гаманлівы быстрацечны Нёман, маляўнічую прыроду роднага кута насіў паэт у сваім сэрцы да скону дзён. Дзецям сваім перадаў як дарагую спадчыну. Самага меншага сына назваў Міхасём у гонар бацькі, прысвяціў яму паэму "Міхасёвы прыгоды". Як і дзядзька Антось, ён браў Міхаську на прыроду, рыбалку, у лес па грыбы. Вучыў чытаць сляды звяроў, распазнаваць шчэбет птушак, назвы розных пародаў дрэў, слухаць музыку соснаў, аберагаць жывую прыроду.

Міхась усёй душою палюбіў прыроду, нёманскія краявіды. Неяк прызнаваўся:

-- Я б не згубіўся на бацькавых сцяжынках, хоць не бываў там раней. Ведаю, дзе Акінчыцкая грэбля, Арцюхі, Чортаў камень, Смалярня, Лядзіны, Цёмныя Ляды. Ну, вядома, славутая Альбуць. Я іх бачыў у сне, у думках дзесяткі разоў прабягаў па гэтых мясцінах. "Новая зямля" -- гэта святая праўда сялянскага жыцця, мастацкае бачанне нацыянальнага побыту беларусаў, непаўторна маляўнічай прыроды. Гэта і мая духоўная спадчына. Кожны год я езджу туды, да сваіх вытокаў. Бяру з сабою дзяцей, збіраюся і ўнукам паказаць іх прадзеда радзіму...

Міхась прысадзісты, каржакаваты, шыракаплечы, як і бацька, а тварам пайшоў па маці, такі ж акруглы і курносы, але лоб усё-такі альбуцкі. Ён загукаў першы раз на Старажоўцы ў Мінску па вуліцы Русецкага, дзе здымаў кватэру ягоны бацька. Пачынаўся тады галодны і халодны 1926 год. Калі быць дакладным -- Міхась нарадзіўся 31 студзеня. Марыя Дзмітрыеўна, маці Міхася, не магла стачыць канцы з канцамі, беднасць вытыркалася ўсімі вокнамі пуставатай кватэры. Дзеці хварэлі, лякарстваў недакупіцца, не заўсёды было малако. Калі маці ішла на рынак, каб купіць ці абмяняць што-небудзь на ежу, заўсёды наказвала большаму, разважліваму Данілу:

-- Глядзі, сынок, каб Юрка не разбудзіў Міхаську, займі яго чым-небудзь... А бацьку трэба пісаць.

**(Заканчэнне на 6-й стар.).**

## ПАВАЖАНЫЯ ЧЫТАЧЫ "ГОЛАСУ РАДЗІМЫ"!

**Калі вы не паспелі падпісацца на нашу газету на першую палавіну 1996 года, то можаце зрабіць зараз падпіску на другі квартал года.**

**Зрабіўшы такі крок, вы будзеце мець гарантыю, што атрымаеце "Голас Радзімы" кожны тыдзень. Шукаць жа газету па кіёсках "Саюздруку" -- дарэмная справа.**

**Наш індэкс 63854.**

**Рэдкалегія "Голасу Радзімы".**

## ПАШТОЎКА З БЕЛАРУСІ



**У сапраўдны музей ператварылі сваю кватэру сельскія мастакі Мікалай і Наталля МЕЛЬНІЧУКІ. Пасля сканчэння Кобрынскага вучылішча мастацкіх промыслаў яны ўжо амаль дзесяць гадоў жывуць і працуюць у пасёлку Ленінскі Жабінкаўскага раёна. Спадабаецца занятак бацькоў і іх дзецям -- васьмігадоваму ЦІМУРУ і двайнятам ГАННЕ і ЖЭНІ.**

**Фота Рамана КАБЯКА.**

ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*САЦЫЯЛАГІЧНЫЯ АПЫТАННІ*

## НА КАГО СПАДЗЯВАЦЦА

**Мяркуючы па выніках сацыялагічных апытанняў, праведзеных Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, насельніцтва Беларусі не адрозніваецца асобым аптымізмам наконт сацыяльна-эканамічнай будучыні рэспублікі.**

**Аднак колькасць тых, хто спадзяецца на хуткае паляпшэнне, у 1995 годзе ў параўнанні з 1994-м узрасла больш чым удвая (з 9 да 20 працэнтаў). Тым не менш, 49 працэнтаў рэспандэнтаў падчас апошняга апытання лічаць, што ў бліжэйшыя гады сацыяльна-эканамічная сітуацыя ў краіне пагоршыцца, прыкладна трэцяя частка апытаных (29 працэнтаў) мяркуе, што ўсё застанецца па-ранейшаму.**

**Свае надзеі на выхад з эканамічнага крызісу людзі звязваюць з А.Лукашэнкам. Пры гэтым істотна знізіўся рэйтынг іншых уладных структур, і перш за ўсё ўрада.**

**Акрамя таго, грамадзяне Беларусі звязваюць пэўныя спадзяванні і з заканадаўчай уладай -- новым парламентам. Калі ў 1994 годзе толькі 9 працэнтаў рэспандэнтаў спадзяваліся на Вярхоўны Савет, то ў 1995 годзе ўжо 16 працэнтаў апытаных адзначылі, што звязваюць свае надзеі на выхад з эканамічнага крызісу з Вярхоўным Саветам новага склікання.**

*З БЕЛАСТОКА*

## ФЕСТЫВАЛЬ І ЮБІЛЕЙ БГКТ

**У Беластоку адбыўся агульнапольскі фестываль "Беларуская песня-96". У ім прынялі ўдзел 69 калектываў і выканаўцаў з розных куткоў Польшчы, у тым ліку з Варшавы. Дыпламантаў фестывалю вызначала журы пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі прафесара Міхаіла Дрынеўскага. Бліскуча выступілі на фестывалі і госці -- удзельнікі ансамбля "Талака" з Віцебшчыны, якія дэманстравалі сваё майстэрства па-за праграмай песеннага свята. Ад імя беларускай дзяржавы пераможцаў, удзельнікаў і гледачоў цёпла вітаў генеральны консул Беларусі ў Беластоку Міхаіл Слямнёў.**

**А 17 лютага ў Беластоку адбыўся заключны акорд фестывалю -- святочны гала-канцэрт, прысвечаны 40-годдзю стварэння ў Польшчы Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ). У ім прыняў ўдзел наш "Крупіцкія музыкі".**

*У ПАМЯЦЬ АБ НАРОДНЫМ ПАЭЦЕ*

**У ліпені мінулага года Кабінет Міністраў прыняў пастанову аб увекавечанні памяці народнага паэта Беларусі Пімена Панчанкі. Было прынята рашэнне назваць яго імем вуліцу ў Мінску ў мікрараёне Сухарава.**

**А 15 лютага быў выкананы яшчэ адзін пункт урадавай пастановы: у гэты дзень роўна апоўдні на доме N 29 па вуліцы Пуліхава, дзе жыў паэт, установлена мемарыяльная дошка. На ўрачыстым мітынгу выступілі вядомыя беларускія літаратары і прадстаўнікі кіраўніцтва краіны і горада.**




*ПРЫЗНАЧЭННІ*

## УЛАДЗІМІР БЕЛЬСКІ — СТАРШЫНЯ КАМІТЭТА ПА ДРУКУ

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Уладзімір Бельскі назначаны старшынёй Дзяржаўнага камітэта па друку.**

**Новапрызначанаму кіраўніку камітэта 40 гадоў. Ён журналіст, пісьменнік, палітолаг. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт і Расійскую акадэмію кіравання. Яго малая радзіма -- вёска Слабодка Калінкавіцкага раёна Гомельскай вобласці. У калінкавіцкай раённай газеце пачынаў сваю журналісцкую дзейнасць. Працаваў у "Советской Белоруссии", "Знамени юности". Апошнія гады быў галоўным рэдактарам газеты "Чырвоная змена". Нядаўна выйшла кніга яго прозы "Блізкі бераг".**

**А былы міністр культуры і друку Анатоль Бутэвіч, які застаўся без партфеля, магчыма зойме пасаду Генеральнага консула Беларусі ў Гданьску.**

*ПАМЯЦІ М.УЛАШЧЫКА*

## УЛЮБЁНЫ Ў БЕЛАРУСЬ

**Мікалай Улашчык хацеў дажыць свае гады ў Беларусі, яшчэ папрацаваць тут дзеля яе дабра і славы. Гэткай магчымасці Беларусь савецкая свайму сыну не дала. Ён так і памёр у Маскве з тугой у сэрцы па той зямлі, якая яго спарадзіла. На Беларусі М.Улашчык быў ізгоем, нацыяналістам, а ў Маскве -- шанаваным вучоным вялікага ўзроўню, выдатным і сумленным гісторыкам.**

**На вечары ў Мінскім Доме літаратара, прысвечаным 90-м угодкам з дня нараджэння вялікага патрыёта Беларусі, М.Улашчык быў названы апошнім з той кагорты сапраўдных нацыянальных гісторыкаў, у якой былі такія імёны, як В.Ластоўскі, У.Ігнатоўскі. З успамінамі пра Мікалая Улашчыка выступілі Ніл Гілевіч, Янка Брыль, Эрнэст Ялугін, Аляксей Каўка, Уладзімір Содаль і іншыя.**

**14 лютага адкрылася навуковая канферэнцыя "М.М.Улашчык і праблемы беларускай гістарыяграфіі, крыніцазнаўства і археаграфіі", якая доўжылася два дні і была насычана вялікай колькасцю цікавых, разнастайных і змястоўных дакладаў. Удзельнікі яе ўсклалі кветкі на магілу М.Улашчыка на Чыжоўскіх могілках у Мінску.**

**У Нацыянальнай бібліятэцы адкрылася выстава, прысвечаная слыннаму вучонаму.**

*"Для Шушкевіча ў палітыцы ніколі не існавала маральных бар'ераў, таму ацэньваць любыя яго словы з пазіцый маральнасці бессэнсоўна. Менавіта Шушкевіч класічна падаў нам, маладым палітыкам, першыя ўрокі курсу "Палітыка — справа брудная". Не хачу і не буду развіваць гэтую тэму, бо не ў маіх правілах каго-небудзь абмяркоўваць і ацэньваць. Чалавек, які дзесяткі разоў парушаў свае палітычныя абавязацельствы, не можа патрабаваць сумленных правілаў гульні. Шушкевіч як ніхто іншы — і ў гэтым разбяруцца і аналітыкі, і гісторыкі — нанёс жудасны ўрон дзяржаве, не гаворачы ўжо аб шкодзе таму, што цяпер называецца дэмакратычным рухам. Самая страшная сітуацыя — гніенне. Ён яе закансерваваў сваёй арганізацыйнай бездапаможнасцю і палітычнай беспрынцыпнасцю. Лічу, што вызваленне Шушкевіча многае вызначыла, інакш гэтае гніенне дзяржаўнасці давяло б да непрадказальных вынікаў.*

*Выбранне Лукашэнкі тлумачыцца не зразумелай грамадскай анамаліяй — насуперак здароваму сэнсу, палітычнай логіцы. З іншага боку, тое, што ён цяпер дэманструе, па крайняй меры, пакажа, як не павінна быць, як не трэба кіраваць, да чаго можа прывесці дзяржаву выпадковы чалавек. Але гэта меншае зло, таму што Шушкевіч сваім надуманым іміджам дэмакрата быў проста палітычна шкодны".*

*(З інтэрв'ю Віктара ГАНЧАРА, дэпутата Вярхоўнага Савета Беларусі, карэспандэнту "Народнай газеты").*

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

У БЕЛАСТОКУ, на гарышчы дома, дзе месціцца беларуска-польскае таварыства, верхнядзвінскі мастак Валерый Шчасны знайшоў дэкарацыі, створаныя слынным Язэпам Драздовічам да аматарскіх спектакляў па п'есе Уладзіслава Галубка "Суд", камедыі Марка Крапіўніцкага "Пашыліся ў дурні", драмы Францішка Аляхновіча "Страхі жыцця". В.Шчасны прымаў удзел у арганізацыі выставы твораў Драздовіча на пленэры ў Беластоку.

У САНКТ-ПЕЦЯРБУРГУ, дзе доўгі час працаваў беларускі жывапісец Аляксандр Ісачоў, выкрадзены яшчэ дзве яго унікальныя работы. Нядаўна мы паведамлялі, што некалькі яго карцін былі выкрадзены з яго кватэры ў Рэчыцы.

УПЕРШЫНЮ за апошнія некалькі гадоў у Барысаўскім раёне браканьеры застрэлілі двух зуброў. Гэта былі самкі 7—8 гадоў. Барысаўская папуляцыя зуброў існуе з 1974 года ў Зембінскім лясніцтве. У статку цяпер засталося 34 зубры.

НА КАЛЕГІІ Міністэрства адукацыі і навукі прынята рашэнне: па-ранейшаму за курс сярэдняй школы будуць здавацца абавязковыя вусныя экзамены па беларускай літаратуры. У дадатак вучню будзе прапанавана напісаць дыктоўку на рускай ці беларускай мове. Выбар — за вучнем.

ВЫСЕЛІЦЦА да 26 лютага! Такое распараджэнне атрымала рэдакцыя газеты "Свабода", якая месціцца ў будынку Міністэрства статыстыкі. Цяпер будынак забрала кіраўніцтва справамі Прэзідэнта. "Свабоду" ўжо забаранялі друкаваць у Беларусі, распаўсюджваць праз кіёскі "Саюздруку". Рэдакцыя мае дагавор на арэнду трох пакояў, тэрмін якога сканчыцца толькі праз два гады. Але ці дапаможа гэта?

КАЛЯРОВЫЯ плакаты з выявай Прэзідэнта Беларусі з'явіліся ў сталічным магазіне "Светач". Як паведамляе прэса, плакаты бяруць нарасхват. У залежнасці ад памераў яны каштуюць 25, 20 і 10 тысяч рублёў.

*ЭКАНАМІЧНАЯ ХРОНІКА*



**Ідзэя выкарыстаць грузавыя цеплавозы М-62, што стаяць у адстоі, прыйшла ў сувязі з тым, што дызель-паязды, якія сёння яшчэ ходзяць па сталёвых магістралях, ужо маральна састарэлі, а іх рамонт каштуе вельмі дорага. Сумесна з Рыжскім вагонабудаўнічым заводам з дзвюх цеплавозных секцый і дзесяці вагонаў у рэспубліцы створаны новы пасажырскі поезд ДРБ-1, здольны перавозіць 1 200 пасажыраў.**

**Два такія цягнікі ўжо паспяхова эксплуатуюцца ў Віцебскім аддзяленні чыгункі, яшчэ адзін пачаў курсіраваць паміж Брэстам і Лунінцом.**

**НА ЗДЫМКУ: новы дызель-цягнік, створаны па ідэі беларускіх чыгуначнікаў.**



**Мінскі завод халадзільнікаў пастаўляе сваю прадукцыю на рынак краіны ўжо больш 30 гадоў. Халадзільнікі "Атлант-Мінск" заваявалі мноства прызоў і на міжнародных выставах. Сёння яны пастаўляюцца ў Англію, Францыю, Бельгію, Аўстралію, Балгарыю, на Кубу і ў блізкае замежжа.**

**НА ЗДЫМКУ: найноўшая прадукцыя Мінскага завода халадзільнікаў.**



**Брэсцкі завод газавай апаратуры не выпадкова называюць адным з нямногіх у Беларусі прадпрыемстваў, якія і ў складаных умовах эканамічнага крызісу працягваюць працаваць стабільна. У гэтым годзе, напрыклад, тут маюць намер выпусціць для продажу насельніцтву прыкладна 350 тысяч газавых пліт. Акрамя таго, у гандлёвую сетку адсюль паступяць мікрахвалевыя печы і эмаліраваны посуд.**

**Вырабы завода вызначаюцца высокай якасцю, якая адпавядае еўрапейскаму ўзроўню.**

**НА ЗДЫМКУ: кантралёр Алена НІКАЛАЙЧЫК, майстар цэха Канстанцін КУДРАШОЎ і слесар Аляксандр НОВІК.**

*КРЫМІНАЛЬНАЯ СТАТЫСТЫКА*

## РАЗБОЙ НА РЭЙКАХ

**За мінулы год на беларускай чыгунцы было выразана 348 медных дросельных перамычак, украдзена 26 кіламетраў сілавога кабелю і 64 кіламетры правадоў ліній сувязі. Прапалі або былі прыведзены ў непрыгоднасць 250 рэле і прыбораў, 260 акумулятараў, 22 тысячы квадратных кіламетраў вагоннага шкла. Усяго за мінулы перыяд страты ад крадзяжоў і псавання склалі 1 мільярд 200 тысяч рублёў. У сувязі з узнікшай абстаноўкай усе прыгарадныя паязды сталіцы былі ўзмоцнены радавым і сяржанцкім саставам унутраных войскаў рэспублікі. З іх дапамогай супрацоўнікі міліцыі выявілі больш за сто злачынстваў і затрымалі 4 тысячы правапарушальнікаў. У выніку аператыўнай работы было ўстаноўлена, што гэты від злачынстваў учыняецца самімі чыгуначнікамі або непаўналетнімі.**

**Згодна з ацэнкамі за 1995 год на тэрыторыі рэспублікі ў сферы транспарту зарэгістраваны па ўсіх лініях службаў 3 284 злачынствы, што на 20 працэнтаў больш, чым у 1994 годзе. Павялічылася на 30 працэнтаў колькасць цяжкіх злачынстваў і склала 750 выпадкаў.**

## ПАБЫВАЙЦЕ Ў ВІСКУЛЯХ





**Слова "Віскулі" да 8 снежня 1991 года было вядома толькі малому колу людзей. І трапіць у гэтае ўрочышча, што знаходзіцца ў Белавежскай пушчы, простаму чалавеку было практычна немагчыма. Справа ў тым, што ў 1957--1958 гадах тут, у багатым дзічынай месцы, была пабудавана ўрадавая дача, дзе наладжвалася паляванне, адбываліся сустрэчы за зачыненымі дзвярамі з лідэрамі многіх краін.**

**Пасля падпісання Ельцыным, Краўчуком і Шушкевічам вядомых дакументаў, што вырашылі лёс СССР, сюды можа трапіць любы турыст. За ўмераную плату можна пажыць у гасцінічных карпусах Віскулёў. Цяпер гэтае месца так і называецца -- гасцінічны комплекс "Віскулі" Дзяржаўнага нацыянальнага парку Белавежская пушча.**

**НА ЗДЫМКАХ: цэнтральны будынак Віскулёў -- Дом для прыёмаў; з 1963 года звязаны з Віскулямі Сцяпан МАРТЫСЮК. Доўгія гады быў тут лясніЧым. Апошнія восем гадоў -- камендант комплексу "Віскулі".**

## *НЕ ЎПУСЦІЦЬ СВОЙ ШАНС*

# ПАШУКАЕМ АЛМАЗЫ Ў ТАНЗАНІІ

**Трэба не ўпускаць рэальныя магчымасці зрабіцца кр[illegible] у багацейшым не толькі кожнаму асобнаму грамадзяніну, але і ўсёй нашай Беларусі ўвогуле, лічыць геолаг, акадэмік Радзім ГАРЭЦКІ, які нядаўна пабываў у дзелавой паездцы ў Танзаніі. Яму слова:**

-- Сапраўды, амаль экватарыяльная афрыканская Танзанія і наша Беларусь, на першы погляд, настолькі далёкія адна ад адной, што не могуць мець нічога агульнага. Але хто так думае, не мае рацыі.

Танзанія -- краіна вельмі багатая на карысныя выкапні, у тым ліку на золата, алмазы, нафту... Вось мы і жадалі б (і гэта магчыма зрабіць) распрацоўваць некаторыя радовішчы разам, на ўзаемавыгадных умовах. Справа ў тым, што па плошчы краіна перавышае Беларусь у пяць разоў, а па колькасці насельніцтва толькі ў два. Зразумела, сваіх сіл, вытворчых, людскіх, не хапае. Мы ж маем дастаткова эфектыўнае Беларускае дзяржаўнае геалагічнае прадпрыемства, якое працуе ў асноўным на Беларусі, але, як кажуць, пазірае і па баках. У выніку, у Афрыцы ўжо ўтворана нешта накшталт беларускага філіяла.

**-- Радзім Гаўрылавіч, але, як вядома, міжнародныя рынкі, якія маюць хоць нейкае дачыненне да золата, алмазаў, нафты, даўно падзелены. Беларусь жа -- краіна невялікая, дастаткова сціплая. Нас нідзе не чакаюць...**

-- Па плошчы мы -- сярэдняя еўрапейская дзяржава, але якую сапраўды нідзе не чакаюць. З адным толькі ўдакладненнем: гэта ж тычыцца і ўсіх астатніх. Кожны павінен сам завяўваць сабе месца пад сонцам, афрыканскім таксама.

У Танзаніі намі ўжо знойдзены першыя рассыпныя алмазы, ёсць магчымасць распрацоўваць карэнныя радовішчы, тое ж самае з золатам.

Згодны: канкурэнцыя велізарная. Але мы можам нечага дамагчыся.

**-- Відаць, свае паслугі танзанійцам прапаноўваюць не толькі беларусы. Чым жа прываблівае ваш праект! Таннасцю!**

-- І таннасцю ў тым ліку. Наогул, пакуль у Танзаніі работы хапае ўсім: французам, англічанам, немцам, амерыканцам, расіянам... Беларусам трэба не спаць, бо потым застанецца толькі шкадава[illegible] рынкі зоймуць іншыя.

Калі мы шукалі газав[illegible] і нафтавыя радовішчы, бачылі: самыя перспектыўныя ўжо "забраніраваны" амерыканцамі і англічанамі. Але досыць цікавыя раёны адшуканы і намі. Засталася невялікая падрыхтоўчая работа, і сёлета магчыма заключэнне кантракта і пачатак распрацовак.

**-- Хто можа працаваць у Афрыцы?**

-- Тое ж наша "Белгеа", работнікі з гомельскага аб'яднання "Беларуснафта", мінскага "Беларусьгеалогія", нашага акадэмічнага Інстытута геалогіі. Беларускія спецыялісты па сваёй прафесійнай падрыхтоўцы ні ў чым не саступаюць замежным калегам.

**-- Такім чынам, на ваш погляд, справа выгадная!**

-- Вельмі. Многія краіны наогул не маюць уласных карысных выкапняў, а жывуць не ў прыклад нам заможна. Укладваць грошы ў розныя прадпрыемствы па-за ўласнымі межамі -- агульная практыка, так робіць увесь свет. Дарэчы, тая ж Танзанія заключае дагаворы на вельмі спрыяльных для партнёраў умовах: размова можа ісці пра 50 працэнтаў прыбытку. Зразумела, з цягам часу танзанійцы павялічаць сваю долю. Тым больш важна выкарыстаць цяперашні, вельмі выгадны момант.

Між іншым, нешта падобнае адбываецца і на тэрыторыі нашай краіны, дзе таксама вядуцца пошукі алмазаў. Не ведаю дакладна, на якой стадыі ўсё зараз знаходзіцца, але некаторым замежным фірмам прапаноўвалася зрабіць свае інвестыцыі, каб потым карыстацца знойдзеным багаццем разам. Дарэчы, распрацоўкі прапаноўваліся магчымаму партнёру на значны тэрмін. І ўсё роўна для нас такое супрацоўніцтва было б карысным, бо самі мы весці вялікія росшукі алмазаў не ў стане.

**-- Чаму ў Танзаніі -- "у стане", а ў сябе дома -- "не ў стане"!**

-- У Танзаніі нам лягчэй, бо значную частку сродкаў укладвае сама гэтая краіна. Там значна лягчэйшыя і самі пошукавыя работы, у нас жа сітуацыя складаная, а таму патрабуе вялікіх выдаткаў. І калі ў Беларусі трэба яшчэ шукаць і шукаць, то, як я казаў, у Танзаніі сумесная беларуска-танзанійская фірма ўжо знаходзіць рассыпныя алмазы. А ўсё гэта -- алмазы, залаты фонд краіны, усё гэта -- багацце. І дасягальнае.

**-- У чым жа тады праблемы! Трэба хутчэй пачынаць працаваць.**

-- Па-першае, як звычайна, справа ўпіраецца ў грошы -- неабходна ўнесці сваю долю інвестыцый, а сродкаў у беларускага ўрада няма. Асабліва дарагі занятак -- пошук нафты. Шмат каштуе само свідраванне, абсталяванне для якога -- свайго роду невялікі завод. Таму неабходны інвестары, магчыма, прыйдзецца прыцягваць расійскі капітал.

**-- А беларускі бізнес не цікавіцца!**

-- Пакуль не.

Але вернемся да праблем. Другая вялікая "закавыка" -- падаткі. Пошліны, уведзеныя на нашай мяжы, робяць для самога прадпрыемства ўвоз золата і алмазаў не толькі непрыбытковым, але проста стратным. Застаецца варыянт -- прадаць сыравіну за мяжой, што ажыццявіма. У такім выпадку краіна страчвае частку магчымых даходаў.

**-- Нейкі нонсенс...**

-- І тым не менш у нас ці не па ўсіх напрамках сёння так. Крыху іншае становішча з нафтай. Транспарціраваць яе з Афрыкі -- далёка, таму лепей рэалізоўваць на месцы здабычы, а за атрыманыя грошы нафту купляць у той жа Расіі ці газ у Нарвегіі, дзе якога зараз вельмі многа.

Увогуле, танзанійскі рынак досыць свабодны, краіна мае добры порт. Мяркую, там знайшлі б шгосьці карыснае не толькі геолагі. Бадай, мелі б нядрэнны збыт беларускія грузавыя аўтамабілі, трактары. Як я бачыў, рэальнае супрацоўніцтва ў лесапрацоўках. Танзанія -- усяго толькі адзін з мноства варыянтаў. Існуюць і іншыя магчымасці. Размова пра тое, каб іх не ўпусціць.

**Галіна УЛІЦЁНАК.**

## У КАМІСІІ ВЯРХОЎНАГА САВЕТА

## ПА ЗАКАНАДАЎСТВУ

# ХТО БУДЗЕ "ПЯЧЫ" ЗАКОНЫ

**У Вярхоўным Савеце Рэспублікі Беларусь сфарміравана Камісія па заканадаўству. Прапануем інтэр'ю з яе старшынёй Рыгорам ПРАКАПОВІЧАМ. Першае пытанне тычыцца складу новай камісіі.**

-- Сам я нарадзіўся на Віцебшчыне. Да выбрання працаваў першым намеснікам пракурора Гомельскай вобласці, курыраваў следства. Намеснік старшыні Ігар Анушкін, па адукацыі філосаф, працаваў у прафсаюзе, потым дырэктарам прафесійна-тэхнічнага вучылішча, дзе пяць год выкладаў права, сакратар камісіі -- Валерый Новік, юрыст-практык, працаваў у пракуратуры, потым пайшоў у камерцыйную структуру, апошнім часам выкладаў у Магілёўскім універсітэце. Чацвёрты член камісіі -- вядомы юрыст Віктар Ганчар.

*-- Як вы ахарактарызавалі б прававую спадчыну, што дасталася вашай камісіі?*

-- Вярхоўны Савет дванаццатага склікання за час сваёй працы прыняў новую Канстытуцыю і ў агульнай складанасці больш за 500 заканадаўчых актаў. Такая заканатворчая актыўнасць у беларускага парламента не назіралася за ўсю яго гісторыю. Канешне, адны толькі лічбы нельга разглядаць як галоўны крытэрый эфектыўнасці работы парламента. На жаль, трэба прызнаць, што законы, прынятыя [illegible]ярхоўным Саветам дванаццаці[illegible]а склікання, не змаглі зм[illegible]ць негатыўныя працэсы, што адбываюцца ў краіне, пераадолець крызісныя з'явы ў нашай эканоміцы. Мы, як і раней, жывем у неправавой дзяржаве. Большая частка законаў сён[illegible]незразумелая людзям, у і[illegible]ат супярэчнасцей, і, на мой погляд, яны не могуць разлічваць на падтрымку большасці насельніцтва.

*-- Што, у сваю чаргу, маглі б прапанаваць вы?*

-- Я лічу, што ў краіне павінна быць дзяржаўная праграма падрыхтоўкі заканадаўчых актаў, бо не адсутнасць вядзе да таго, што заканатворчы працэс у Беларусі зараз хаатычны, бессістэмны і носіць элементы суб'ектывізму.

*-- Не маглі б вы вызначыць асноўныя напрамкі работы вашай камісіі?*

-- Я лічу, што гэта павінна быць заканатворчая і каардынацыйная дзейнасць, а таксама выкананне кантрольных функцый. Гаворка ідзе, у першую чаргу, аб распрацоўцы заканадаўчых актаў. Наша камісія павінна дзейнічаць на заключнай стадыі работы, выконваць каардынацыйную функцыю, распрацоўваць сістэму, пакет законаў, увязваць іх адзін з адным. Што тычыцца кантрольнай функцыі камісіі, то тут шырокае поле дзейнасці па сістэматызацыі як таго заканадаўства, што ўжо дзейнічае, так і таго, што будзе, у поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй. І калі галоўнай задачай адпаведнай камісіі папярэдняга склікання была праца над Канстытуцыяй Беларусі і асноўнымі законамі, то наша камісія асноўнай задачай бачыць працу над Грамадзянскім кодэксам. Самае галоўнае -- не спяшацца. Сусветны вопыт паказвае, што грамадзянскую канстытуцыю пішуць па частках. І пішуць не за два, не за тры гады. Можа адбыцца так, што мы напрацуем толькі дзве першыя часткі, астатнія зробяць тыя, хто прыйдзе за намі.

*-- Як, на ваш погляд, можна прымусіць працаваць тыя законы, што ўжо існуюць?*

-- Многія з прынятых папярэднім Вярхоўным Саветам законаў не толькі не вырашылі старых праблем, але і стварылі новыя. Калі законы не працуюць, значыць, ці яшчэ не прыйшоў іх час, ці гэта не тыя законы, якія патрэбны на дадзеным этапе. А ўвогуле, раз мы ўжо загаварылі пра парламентарызм на доўгачасовай аснове, калі ў Вярхоўным Савеце збяруцца сапраўдныя прафесіяналы -- юрысты, эканамісты, палітолагі, -- тады толькі ў нас не будзе "пустых" законаў.

* * *

Вось такая размова адбылася ў нас са старшынёй нядаўна сфарміраванай Камісіі па заканадаўству Рыгорам Пракаповічам.

Аднак ад сябе хочацца дадаць, што, з аднаго боку, не выклікае сумнення тое, што прадуманасць, узважанасць і няспешнасць у прынiцці законаў -- амаль што галоўныя якасці, якія забяспечваюць іх выкананне ў будучыні, але, з другога боку, паўстае пытанне: колькі ж яшчэ Беларусь будзе існаваць, перакрываючы старое заканадаўства новымі нарматыўнымі актамі? Ды і ўвогуле, ці магчыма будаваць светлую будучыню, не вызначыўшы пры гэтым нормы прававых узаемаадносін у грамадстве. Тым больш, што такім чынам нам трэба будзе ўвайсці ў новае XXI стагоддзе. Што тычыцца парламента, створанага на прафесійнай аснове, то, зазірнуўшы ў наша недалёкае мінулае, можна ўбачыць, што на першым туры выбараў у Вярхоўны Савет юрысты складалі 10 працэнтаў ад агульнай колькасці кандыдатаў. І з гэтых 10 працэнтаў большасць складалі супрацоўнікі міліцыі. Так што думка пра тое, што заканатворчасцю павінны займацца прафесіяналы, дагэтуль яшчэ не авалодала масамі. Яшчэ адным сведчаннем гэтага з'яўляецца той факт, што ў асноўнай камісіі Вярхоўнага Савета пажадалі працаваць усяго чатыры чалавекі. Калі давядваешся пра гэта, узнікае пытанне, куды падзеліся астатнія абраныя ў парламент юрысты і ці ёсць яны там увогуле? Удалося высветліць, што толькі ад фракцыі "Згода" ў парламент прайшлі 18 прафесійных юрыстаў. Напэўна, увогуле ў Вярхоўным Савеце іх больш.

У сваім выступленні ў дзень прызначэння старшынёй камісіі Рыгор Пракаповіч сказаў: "Крытычна ацэньваючы сітуацыю, я лічу, што ў хуткім часе наша камісія будзе працаваць у вельмі жорсткім рэжыме, і таму яна можа быць арганізавана толькі на прафесійнай аснове. У яе склад павінны ўвайсці дэпутаты, якія ўмеюць і жадаюць "пячы" законы". Калі ўлічыць, што камісіі трэба будзе распрацаваць і прыняць сотні рашаючых для лёсу Беларусі законаў, "пекарам" разам з брыгадзірам давядзецца працаваць у чатыры змены.

Пры гэтым у Камісію па міжнародных адносінах ахвотна запісалася васемнаццаць чалавек, так што за лёс айчыннай знешняй палітыкі мы можам быць спакойнымі.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# БРАТ МІХАСЬ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

У тыя гады Данілу даводзілася дапамагаць маці па гаспадарцы, бо бацька рэдка спатыкаўся дома, ездзіў па камандзіроўках, сустракаўся з сябрамі на творчых вечарынах, чытаў лекцыі на курсах у Слуцку, займаўся грамадскай дзейнасцю. Часта са сваім дзядзькам Язэпам Лёсікам, зачыніўшыся ў маленькім кабінеце, падоўгу аб чымсьці гаманілі, пілі гарбату, якая была заўжды пад рукою, дзякуючы клапатлівай, "з добрым сэрцам пляменніцы Марусі", як часам, пад добры настрой, называў Язэп жонку пляменніка Кастуся.

-- Старажоўку я амаль не памятаю, -- прызнаецца Міхась, -- пра нашае жыццё там ведаю са слоў старэйшых... Вайсковы завулак, дзе стаяла наша хата, я дакладна ўяўляю і магу сёе-тое прыгадаць, калі ў гэтым ёсць нейкая патрэба.

Тут Міхась пачаў вучыцца і закончыў восем класаў 14-й школы. Вучыўся лёгка, асабліва падабаліся дакладныя навукі, а фізіка стала яго лёсам. Сям'я Якуба Коласа была немалая. Апрача трох сыноў, тут жыла бежанка Вольга Брасюк, якую маці забрала да сябе, вывучыла, дапамагла стаць настаўніцай матэматыкі. Калі памерла сяброўка Марыі Дзмітрыеўны з Вільні Жэня Увядзенская, яе дачка Людміла стала членам сям'і Якуба Коласа. Тут жыў і дзядзька Саша. Ён займаўся гаспадарчымі справамі, яму дапамагалі Даніла, Юрка, Міхась. Садзілі сад, распрацоўвалі зямлю пад агарод. Летам палолі, палівалі грады, шматлікія кусты агрэсту, парэчкі, чорнай рабіны, маладыя саджанцы дрэваў. Збіраліся жыць тут грунтоўна і доўга...

Мы з Міхасём сядзелі на кухні ў ягонай хаце па вуліцы Сурганава ў Мінску. У той хаце, што прымасцілася ў старым садзе пад соснамі непадалёку ад музея Якуба Коласа. На двары ляжаў неглыбокі снег, крыху марозіла. Зорнае неба заглядала ў акно. У пярэднім пакоі жонка Наташа, сын Кастусь глядзелі навіны па тэлевізары. Мы ж гаманілі па-свойску. Я, магчыма, упершыню задаў пытанне, чаму Міхась ніколі не выступае на ўрачыстасцях, прысвечаных юбілейным датам бацькі... Гэтае пытанне не раз круцілася на кончыку языка, але не было спрыяльных умоў, каб спытацца аб гэтым. Яшчэ пры жыцці паэта Данілу даручалася пэўная доля бацькавых спраў, меліся на ўвазе нейкія арганізацыйныя пытанні, якія хвораму і старому бацьку ўжо было не падняць. Я мушу абмовіцца: Міхась не маўчун і думак сваіх не хавае ў кішэні. У яго шмат знаёмых, ёсць асабістыя сябры не толькі на Беларусі. Яму ўласцівы тонкі гумар, нейкая сялянская прастата ў размовах, што выклікае на шчырасць. На мой погляд, шмат рысаў у характары дасталася яму ад маці: гэта спагада да чужога гора, добразычлівасць, тактоўнасць... Тым не менш часам складваецца ўражанне, што малодшы сын Якуба Коласа крыху ў цені.

Брат на маё пытанне ўсміхнуўся ў сівыя вусы. У яго цёмна-шэрых вачах запаліліся вясёлыя агеньчыкі. Крыху ў нос і з прыцыскам у голасе дабрадушна адгукнуўся.

-- На сцэну, Сымоне, трэба выходзіць, каб нешта новае і цікавае паведаміць людзям. Пра бацьку шмат напісана, нагаворана, ды мае там нейкія словы не будуць мець высокай вартасці... Калі па шчырасці -- не люблю стаяць перад мікрафонам.

-- Але ж дзеці такіх вядомых бацькоў, спакваля, выступаюць з успамінамі, -- не пагадзіўся я.

— Даніла лёгка запоўніць гэты прабел. Ён бліжэй да мастацкага слова і бацькавай спадчыны. На правах старэйшага брат многа разоў сустракаўся з бацькавымі сябрамі, знаёмымі, непасрэдна займаўся літаратурнымі, а часам і грамадскімі справамі Коласа. Словам, ён быў сваім сярод пісьменнікаў, палітычных дзеячаў таго часу... Я з задавальненнем выступаю ў школах, рабочых цэхах, перад моладдзю. Ніколі не адмаўляюся, калі мяне запрашаюць...

Міхась неяк весела паглядзеў на мяне, у вачах блукалі смяшынкі, з вуснаў вось-вось сарвецца слова.

— А ты ведаеш, як я пазнаёміўся са сваёю будучай жонкай? -- нечакана запытаў ён.

Я ўжо з большага ведаў, як брат пазнаёміўся з Наташай, дачкою Янкі Маўра. Закончыўшы школу з атэстатам выдатніка ў 1943 годзе, Міхась паступіў у Варонежскі авіяцыйны інстытут, які тады знаходзіўся ў Ташкенце, дзе і жыла сям'я Коласа ў час вайны. У тым годзе Даніла дапамог брату перавесціся ў Маскоўскі авіяцыйны інстытут. Наташа заканчвала школу ў Алма-Аце, куды эвакуіраваўся яе бацька. Вучоба ў тыя часы была платная, і Янка Маўр напісаў Коласу ліст, папрасіў 200 рублёў. Прынамсі, такі быў кошт за навуку...

Ужо калі Наташа вучылася ў Маскве на эканамічным факультэце, Міхась упершыню спаткаўся з ёю. Яму адразу спадабалася невысокая танклявая, з тоўстай каштанавай касою дзяўчына. Яе гарэзлівыя цёмна-карыя, крыху ўсмешлівыя вочы не мог забыць Міхась. Здарылася так: Наташа забылася свой пропуск і студэнцкі білет дома. Жонка Максіма Лужаніна прывезла пропуск і перадала Міхасю. Ён зайшоў у яе групу і запытаўся:

-- Хто тут Фёдарава?

-- Я. А што такое?.. -- насцярожана і зацікаўлена кінула позірк дзяўчына.

— Во, пропуск ваш, і наказ мой, каб больш не забываліся. Другім разам самі мяне шукаць будзеце...

У Мінск, на канікулы, яны ўжо ляталі разам, сустракаліся пад зялёнымі шатамі дрэў, не маглі нагаварыцца. Звонкі смех сяброўкі валодаў сэрцам студэнта не менш, чым самая пяшчотная, чароўная музыка...

— І ведаеш, Сымоне, зусім неспадзявана для сябе я запытаўся, ці пайшла б яна за мяне замуж... І так жа нечакана пачуў:

— А чаму не?.. Паклічаш — пайду.

Бацькі -- Колас і Маўр -- таксама былі задаволены такім сваяцтвам і не пярэчылі дзецям. У 1947 годзе з'явіўся на свет і першы ўнук сватоў Сяргей Міхайлавіч. Яго бацькі заканчвалі вучобу ўжо ў Мінскім політэхнічным інстытуце... Пасля аспірантуры і навуковай працы стралковы спорт быў у Міхася не на апошнім месцы. Ён стаў чэмпіёнам рэспублікі на спаборніцтвах па стэндавай стральбе, выканаў норму майстра спорту СССР.

У 1956 годзе ў добрым настроі вяртаўся даха [illegible] Масквы. Карцела падзяліцца сваёю рада[illegible] з бацькам, якому адкрываў душу і сэрца, лічыў сваім настаўнікам. Ён, узрушаны і вясёлы, выйшаў з вагона, убачыў Наташу. Жонка плакала, слёзы каціліся па яе твару.

— М[illegible]сь... Міхась... няма больш бацькі...

Зя[illegible] паехала з-пад ног, закружылася. Моцна стукала сэрца ў грудзях, забалела, быццам яго паласнулі нажом.

— Калі?..

— Сягоння, апоўдні, за пісьмовым сталом, раптоўна... Данік не паспеў сказаць яму слова, выклікаць лекараў...

...Час бяжыць няўмольна, коціць свае хвалі Нёман, толькі памяць, нібы плынь вады, адыходзіць удалячынь, але яна вечная, як і сама прырода, без якой немагчыма існаванне чалавека... Міхась стаў дзедам, загукалі ўнукі, Яраслаў ад Сяргея, Іван і блізняты Васіль з Васілінаю ад дачкі Марыі. Свайго самага малодшага сына Міхась назваў Кастусём у гонар бацькі. Карані кусцішча, дрэва старэе. Ужо ў шаноўным узросце доктар фізічных навук Міхаіл Канстанцінавіч Міцкевіч ездзіў на канферэнцыю ў Акадэмію навук Узбекскай ССР, у інстытут электронікі. У Ташкенце хацеў зайсці ў школу, дзе вучыўся, але школы ўжо не было. Адзіны будынак, які застаўся, -- гэта музей Сяргея Ясеніна. Дырэктар Альбіна Макараўна, вучаніца Сцяпана Ліхадзіеўскага, прыехала сюды яшчэ ў мінулым стагоддзі і прыжылася ў Ташкенце. Калі ж Міхась назваўся Міцкевічам, яна з цікавасцю запыталася:

— Вы сваяк Адама Міцкевіча?

— Не, я сын другога Міцкевіча, мой бацька — Якуб Колас.

Яе радасці не было канца, не ведала, дзе пасадзіць, як частаваць, закідвала пытаннямі. Здавалася, адкуль такая жвавасць з'явілася ў бабулі... Яна не адпусціла Міхася, пакуль ён не адказаў на ўсе яе пытанні, што тычыліся Якуба Коласа, яго сям'і, блізкіх і родных. Распытвала ледзь не пра кожнага пісьменніка, акадэміка... Міхась вёў перапіску з музеем і сястрой Ясеніна, якая там працавала.

Тады ён доўга стаяў на вуліцы Якуба Коласа ў Ташкенце. Нізка пакланіўся зямлі, па якой хадзілі маці, бацька. Набраў яе ў хустачку, прывёз у Мінск. Паклаў яе разам з кветкамі на магіле бацькоў на Вайсковых могілках.

**Сымон БЕЛЫ.**

**ЧАРГОВАЕ ПАСЯДЖЭННЕ КАМІСІІ "ВЯРТАННЕ"**

# НАДАЦЬ ФОНДУ ІМЯ І. ЧЫГРЫНАВА

У Скарынаўскім цэнтры адбылося чарговае пасяджэнне грамадскай камісіі "Вяртанне" пры Беларускім фондзе культуры, якая абмеркавала шэраг наспеўшых праблем і зацвердзіла план работы на 1996 год. На ім таксама быў канчаткова зацверджаны змест чарговага зборніка артыкулаў і дакументаў "Вяртанне-3", які мяркуецца выдаць у бягучым годзе.

У зборніку 5 раздзелаў. У першым будуць змешчаны матэрыялы "міжнароднага круглага стала" па праблеме вяртання страчанай спадчыны, які адбыўся ў маі 1995 года ў рамках Другога міжнароднага кангрэса беларусістаў. У другім раздзеле -- інфармацыя пра беларускія каштоўнасці, што трапілі ў музеі, бібліятэкі, архівы і культавыя ўстановы Масквы. Трэці раздзел змесціць выпіскі з Санкт-Пецярбургскіх архіваў пра беларускія археалагічныя і архітэктурныя помнікі, якія былі выяўлены экспедыцыямі і археалагічнымі раскопкамі на тэрыторыі этнічнай Беларусі ў пачатку XX стагоддзя. У чацвёртым раздзеле будуць пададзены звесткі з беларускіх архіваў пра каштоўнасці, вывезеныя з Беларусі нямецкімі акупантамі ў час другой сусветнай вайны. Пяты раздзел дасць інфармацыю пра ўжо вернутыя Беларусі каштоўнасці. Асобны артыкул прысвячаецца вернутым з Украіны абразам. Добры пачатак паклаў прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, перадаўшы першы абраз падчас наведвання Беларусі ў 1995 годзе.

Абмяркоўваліся чарговыя крокі камісіі на шляху стварэння дзяржаўнай структуры ў Беларусі па вяртанню нацыянальных каштоўнасцяў [illegible] гэта зрабілі Украіна і Расія.

Многа ўвагі было ўдзелена вынікам намаганняў сяброў камісіі па вяртанню з Украіны бібліятэкі Храптовіча. Урад Украіны 20-х гадоў даў згоду вярнуць бібліятэку Беларусі, [illegible] сучасныя ўкраінскія дзяржаў[illegible] структуры прапануюць толькі стварыць сумесную міждзяржаўную камісію па абмеркаванню гэтай праблемы і выдаць сумеснымі намаганнямі каталог бібліятэкі Храптовіча. Вяртаць яе ўкраінскія дзеячы культуры пакуль не збіраюцца, сцвярджаючы, што Храптовічы падаравалі Украіне сваю бібліятэку ў 1913 годзе, хаця дакумента аб дарэнні ў іх няма. Перавезлі бібліятэку ў Кіеў у 1915 годзе падчас 1-й сусветнай вайны. На пасяджэнні вырашана было стварыць беларускую камісію з навукоўцаў і ўрадаўцаў, якія ў бліжэйшы час выедуць у Кіеў на перамовы па гэтай праблеме. Дарэчы будзе прыгадаць, што Беларусь сама вярнула Украіне тую частку бібліятэкі Пятлюры, якая выпадкова трапіла ў Беларусь, без усялякіх умоў.

Адначасова сябры камісіі прынялі да ведама інфармацыю намесніка міністра культуры У.Гілепа, што міністр замежных спраў Беларусі У.Сянько прапанаваў міністру замежных спраў Расіі Я.Прымакову (у час яго нядаўняга візіту ў Мінск) стварыць сумесную міждзяржаўную камісію па праблеме вяртання страчаных каштоўнасцяў. Такая камісія паміж Польшчай і Беларуссю створана ў 1994 годзе і правяла ўжо канферэнцыю ў Нясвіжскім палацы.

Згодна з планам работы на 1996 год, сябра Беларускага фонду культуры Надзея Высоцкая выедзе ў музеі некаторых расійскіх гарадоў з мэтай удакладнення спісу беларускіх каштоўнасцяў, якія там захоўваюцца. Ёй жа даручылі падрыхтаваць да выдання "Альбом твораў мастакоў, якіх дала свету зямля беларуская".

На пасяджэнні гаварылася пра вынікі намаганняў БФК па стварэнню Беларускага нацыянальнага музея старажытнага мастацтва XII--XVIII стагоддзяў, які фонд культуры прапанаваў размясціць у былым манастырскім комплексе на вуліцы Бакуніна ў Мінску. Пакуль што ідзе перапіска паміж Міністэрствам культуры і Мінскім гарвыканкомам па гэтай праблеме, бо гарвыканкому даручана знайсці месца, куды перасяліць ваенную камендатуру і архіўную ўстанову, размешчаныя ў манастырскім комплексе.

Акрамя таго, сябры камісіі прапанавалі надаць Беларускаму фонду культуры імя Івана Чыгрынава, які ўзначальваў БФК да апошніх дзён свайго жыцця.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**





**У Мінскім тэатры юнага гледача адбылася прэм'ера славутай п'есы В.Дуніна-Марцінкевіча "Пінская шляхта". Пастаноўку яе ажыццявіў рэжысёр Рыгор Баравік, афарміла спектакль мастак Ларыса Рулёва, балетмайстар -- Віктар Бескаравайны. У галоўных ролях заняты вядучыя артысты тэатра.**

**НА ЗДЫМКАХ: сцэны са спектакля "Пінская шляхта".**

**Фота Мікалая ПЯТРОВА.**

# ГЕРОЙ ДВУХ КАНТЫНЕНТАЎ

Спачатку Касцюшка кіраваў будаўніцтвам абаронных умацаванняў у Філадэльфіі, якая ў той час з'яўлялася сталіцай паўстанцаў. Потым узводзіў фартыфікацыйныя ўмацаванні каля Саратогі, дзякуючы якім амерыканскія паўстанцы атрымалі ў 1777 годзе адну з сваіх першых і выдатнейшых перамог. Потым Касцюшка ўзводзіў самую вялікую ў той час у Злучаных Штатах крэпасць у Вест-Поінт, дзе некаторы час знаходзілася штаб-кватэра галоўнакамандуючага амерыканскай арміяй Джорджа Вашынгтона, які, дарэчы, вельмі высока цаніў талент Касцюшкі як ваеннага інжынера.

Пасля заканчэння вайны Касцюшка быў прыняты ў Таварыства цынцынатаў -- ганаровы саюз ветэранаў амерыканскай рэвалюцыі. Ён атрымаў таксама амерыканскае грамадзянства, пажыццёвую пенсію, зямельны надзел і асабісты падарунак ад Д.Вашынгтона.

У час побыту Касцюшкі ў Паўночнай Амерыцы быў прыняты паўстанцкімі ўладамі шэраг вельмі важных палітычна-прававых актаў, якія яшчэ больш умацавалі яго ў прыхільнасці да дэмакратычных і рэспубліканскіх ідэй. У прыватнасці, у 1776 годзе была прынята "Дэкларацыя незалежнасці Злучаных Штатаў Амерыкі", якая абвясціла ўтварэнне незалежнай амерыканскай дзяржавы. Гэта быў першы ў гісторыі палітычнай і прававой думкі дакумент, які абвяшчаў суверэнітэт народа і асновы галоўных буржуазна-дэмакратычных свабод. Аўтарам "Дэкларацыі" быў асабісты сябра Касцюшкі Томас Джэферсан (1743--1826), выдатны палітычны мысліцель і дзяржаўны дзеяч, трэці прэзідэнт ЗША (1801--1809). Цеснае сяброўства гэтых выдатных асоб узаемна ўплывала на іх жыццёвы шлях, дзейнасць і светапогляд.

Ужо пасля ад'езду Касцюшкі з Амерыкі была прынята Канстытуцыя ЗША 1787 года, якая аказала велізарны ўплыў на развіццё палітычнай і прававой думкі. Канстытуцыя афіцыйна аформіла ЗША ў якасці федэральнай рэспублікі і заканадаўча замацавала прынцып народнага суверэнітэту. Касцюшка добра разумеў значэнне гэтага гістарычнага дакумента, які падвёў вынікі цяжкай вызваленчай барацьбы і аказаў лёсаносны ўплыў на вызваленчую барацьбу народаў планеты. Касцюшка, як і выдатны французскі мысліцель Сен-Сімон (які таксама змагаўся ў шэрагах каланістаў супраць каланіяльнага ярма), мог лічыць сябе "адным з заснавальнікаў свабоды Злучаных Штатаў".

Гады змагання на амерыканскім кантыненце ў паўстанцкай арміі пераканалі Касцюшку ў правільнасці выбранага жыццёвага шляху, у неабходнасці працягу барацьбы за рэспубліканскія і дэмакратычныя ідэі на еўрапейскім кантыненце, на радзіме, куды ён выехаў у 1784 годзе.

## АБАРОНА КАНСТЫТУЦЫІ 3 МАЯ

У гэты час на радзіме Касцюшкі адбываліся вельмі важныя падзеі. Першы падзел Рэчы Паспалітай у 1772 годзе і пагроза яе поўнай ліквідацыі як самастойнай дзяржавы прывялі да хуткага росту і арганізацыі актыўных прыхільнікаў грамадска-палітычных рэформ, да стварэння прагрэсіўнага шляхецка-буржуазнага блока сацыяльных рэфарматараў. Гэты блок ставіў сваёй мэтай захаваць і перабудаваць дзяржаву, утаймаваць свавольства магнатаў, даць адпор захопніцкім імкненням Аўстрыі, Прусіі і Расіі. У 70-я--80-я гады XVIII стагоддзя на землях Рэчы Паспалітай пачынаюцца рэформы ў эканамічнай, сацыяльнай і палітычнай галінах, ініцыятарамі якіх выступалі прыватныя асобы, прыхільнікі буржуазна-дэмакратычных ідэй.



У кастрычніку 1788 года сабраўся чарговы сейм Рэчы Паспалітай, названы пазней Чатырохгадовым, паколькі ён працягваўся чатыры гады. Ён праходзіў пад уплывам ідэй амерыканскай і французскай рэвалюцый. На сейме склалася прагрэсіўная партыя рэфарматараў, на чале якой стаялі Г. Калантай, С. Сташыц і іншыя прыхільнікі асветніцкіх вучэнняў XVIII стагоддзя. У выніку вострай барацьбы рэфарматараў, да якіх далучыўся і кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі, з рэакцыйным магнацтвам былі прыняты рашэнні аб важных сацыяльна-палітычных пераўтварэннях. У прыватнасці, аб павелічэнні колькасці арміі да 100 тысяч чалавек (да таго часу аснову збройных сіл састаўляла архаічнае шляхецкае апалчэнне).

Дзякуючы правядзенню ў жыццё гэтага закона Касцюшка атрымаў пасаду камандзіра брыгады і чын генерал-маёра.

Рэформы Чатырохгадовага сейма падсумавала Канстытуцыя, прынятая 3 мая 1791 года. Яна ўвабрала ў сябе ідэі амерыканскага і французскага асветніцтва. Томас Джэферсан паставіў яе ў адзін рад з амерыканскай Канстытуцыяй 1787 года і французскай Канстытуцыяй 1791 года. Яна адкрывала магчымасць правядзення шматбаковых рэформ на польскіх, беларускіх, украінскіх і літоўскіх землях.

Выпрацоўваючы і прымаючы Канстытуцыю 3 мая, нашы продкі таксама хацелі стварыць перадавыя формы грамадска-палітычнага жыцця, пайсці шляхам эканамічнага і сацыяльнага прагрэсу, далучыцца да перадавых краін свету. Але, як слушна адзначыў В. Дунін-Марцінкевіч, "сумежныя царствы не згадзіліся на тое, штоб у палякаў (беларусаў, украінцаў і літоўцаў. -- **В.Ш.**) быў такі Закан (менавіта словам "Закан" паэт пераклаў на беларускую мову лацінскае слова канстытуцыя. -- **В.Ш.**), і сталі з імі ваяваць".

18 мая 1792 года руская армія перайшла граніцу Рэчы Паспалітай. У абарону канстытуцыі выступілі яе войскі. У адной з першых бітваў вызначылася дывізія пад камандаваннем Касцюшкі. Бітва адбылася каля вёскі Дубенка на берагах Заходняга Буга. Касцюшка ў гэтай бітве меў пад сваім камандаваннем каля 5 тысяч салдат і афіцэраў, але здолеў стрымаць націск прыкладна 20 тысяч царскіх войск. Гэта дало магчымасць паўднёвай арміі пад камандаваннем князя Юзафа Панятоўскага, пляменніка караля, пазнейшага маршала Францыі, аднаго з любімцаў Напалеона, адысці на новыя пазіцыі. За ваенныя заслугі Касцюшка быў узнагароджаны ордэнам "Віртуці Мілітары", яму было прысвоена званне генерал-лейтэнанта.

Аднак, калі кароль Рэчы Паспалітай Станіслаў Аўгуст Панятоўскі здрадзіў партыі рэфарматараў і далучыўся да Таргавіцкай канфедэрацыі, Касцюшка ў знак пратэсту падаў прашэнне аб адстаўцы і выехаў за граніцу.

У 1793 годзе Расія і Прусія заключылі ў Пецярбургу пагадненне аб другім падзеле Рэчы Паспалітай. Краіна была акупіравана іншаземнымі войскамі, рэформы Чатырохгадовага сейма былі ў асноўным адменены.

## НА ЧАЛЕ ПАЎСТАННЯ

Акупацыя краіны іншаземнымі войскамі абудзіла сярод жыхароў прыліў усеагульнага патрыятызму, нябачную палітычную актыўнасць. У гарадах акупіраванай краіны з'явіліся тайныя гурткі, у якіх распрацоўваліся планы барацьбы за незалежнасць. Кіраваў вызваленчым рухам шляхецка-буржуазны блок рэфарматараў.

**Вячаслаў ШАЛЬКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: спатканне Т. КАСЦЮШКІ з Паўлам I у Зімнім палацы. Прысутнасць палякаў тут мае сімвалічны сэнс. Спатканне цара з Т.Касцюшкам адбылося без іх; Мерашчоўшчына -- месца нараджэння Касцюшкі, згодна з яго метрыкай.**

**Працяг. Пачатак у № 7.**



**У Мінску, у Доме літаратара, прайшоў літаратурна-мастацкі вечар, прысвечаны жыццю і паэзіі Максіма Багдановіча. Ён быў прымеркаваны да перавыдання поўнага збору твораў вялікага беларускага паэта. Кніга выйшла ў трох тамах.**

**У вечары прынялі ўдзел вядомыя беларускія празаікі і паэты, літаратуразнаўцы, артысты і музыканты. Увесь вечар гучала паэзія Максіма Багдановіча і песні на яго вершы.**

**НА ЗДЫМКУ: на вечары можна было набыць кнігі Максіма Багдановіча.**

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ.**

*ВЕЧАРЫНА*

*ПАЭТАЎ-ДЫПЛАМАТАЎ*

# СЭРЦА ЦЕШЫЦЦА НА ДЗВІНЕ

Нядаўна ў свеце шырока адзначаўся 50-гадовы юбілей Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. У свой час нашай краіне наканавана было стаць адной з заснавальніц гэтай міжнароднай арганізацыі, гледзячы на тое, што Беларусь уваходзіла ў склад Савецкага Саюза. Для яе -- дарэчы, для Украіны таксама -- было зроблена выключэнне ў знак прызнання выдатных дасягненняў у барацьбе з фашызмам. І гэта прыемна. Як і тое, што ў рабоце сесій Генеральнай Асамблеі ААН у складзе беларускай дэлегацыі, акрамя прафесійных дыпламатаў, былі пісьменнікі. Вядома ж, іх удзел быў фармальны, але, як ні кажы, гэта падвышала інтэлектуальны ўзровень дэлегацыі, яе прадстаўнічасць. А для пісьменнікаў, як для людзей творчых, паездкі за акіян шмат што давалі, шмат што значылі. Гэта была рэдкая магчымасць, адзіныя дзверы, праз якія можна было выйсці ў чужы невядомы свет, адчуць сябе сярод іншых выдатных людзей сучаснасці.

Мінула 50 гадоў. Каля трыццаці вядомых майстроў слова пабывалі за гэты час у складзе дэлегацый: ад Міхася Лынькова, Петруся Броўкі, Аркадзя Куляшова, Максіма Танка, Пімена Панчанкі -- да незабыўнай Яўгеніі Янішчыц, на якой гэты пералік абрываецца. Шмат уражанняў, інфармацыі дала ААН нашым пісьменнікам. Напісаліся публіцыстычныя артыкулы, вершы, кнігі, з якіх людзі даведваліся пра работу ААН, пазнавалі іншы свет. Бясспрэчна і тое, што пісьменнікі мелі ўплыў на станаўленне беларускай дыпламатыі. Таму не выпадкова днямі ў сталічным Доме літаратара, хоць і запозненая, адбылася вечарына, прымеркаваная да залатога юбілею міжнароднай арганізацыі. У ёй бралі ўдзел былыя дэлегаты ААН -- празаікі Вячаслаў Адамчык і Віктар Казько, а таксама паэт Анатоль Вярцінскі, які апісаў свае амерыканскія ўражанні ў кнізе "Нью-Йоркская сірэна", вершы, звязаныя з паездкай у ЗША, увайшлі ў зборнік "Ветрана". Дасціпна, з пачуццём гумару выступілі нашы празаікі. Яны працавалі ў камітэце дэкаланізацыі. Спачатку Вячаслаў Адамчык змагаўся за свабоду Намібіі. Пасля яму на змену прыехаў Віктар Казько і працягваў барацьбу за свабоду Нікарагуа. Іхнія запісы нідзе не публікаваліся, чакаюць свайго часу.

Рэй на вечарыне вёў паэт Генадзь Бураўкін, якому выпаў лёс стаць першым прадстаўніком незалежнай суверэннай Беларусі пры ААН. У адрозненне ад пісьменнікаў-дэлегатаў, якія знаходзіліся на сесіі па тры месяцы, ён працаваў і жыў у далёкай Амерыцы каля чатырох гадоў. Шмат уражанняў, знаёмстваў, сустрэч, складаная праца, забяспечанае жыццё і -- бязмежнае жаданне вярнуцца на Радзіму:

**Я ведаю, мне**
**дома будзе горш.**
**Я ведаю, мне**
**дома будзе горка,**
**Але ірвуся з сытага**
**Нью-Йорка**
**У Мінск, дзе**
**гастраноміі на грош.**

**Што тут паробіш,**
**калі ўсе гады**
**Я нёс, нібы**
**пракляцце і закляцце,**
**Упартую адданасць**
**роднай хаце**
**І ўдзячнасць краю,**
**дзе жылі дзяды.**

Генадзь Бураўкін шчыра прызнаўся, што, толькі вярнуўшыся на Радзіму, змог напісаць вершы, навеяныя ягоным заакіянскім жыццём.

**Іншаземныя яркія дзівы**
**Не ўзрушаюць зусім мяне.**
**Вершы пішуцца на Радзіме.**
**Сэрца цешыцца на Дзвіне.**

Застаецца дадаць, што ў зале прысутнічалі прафесійныя беларускія дыпламаты. А на заканчэнне вечарыны парадаваў сваім майстэрствам любімы і вядомы не толькі на Беларусі фальклорны гурт "Ліцьвіны", прагучалі народныя песні ў выкананні спявачкі Тамары Ліхадзіеўскай пад акампанемент Васіля Купрыяненкі. У фае была разгорнута выстава мастакоў Уладзіміра Цеслюка і Рыгора Ігнатаўца, якія працуюць у тэхніцы маркетры.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

# ФІЛАТЭЛІСТЫЧНАЯ БІЯГРАФІЯ КРАЮ

Больш за 20 гадоў філатэлісты Мінска падтрымлівалі сяброўскія адносіны з філатэлістамі польскага горада Лодзь. За гэты час было праведзена некалькі філатэлістычных выстаў не толькі ў Мінску і Лодзі, але і ў гарадах, якія ўваходзяць у лодзінскую філатэлістычную акругу. Упершыню мінскія філатэлісты ўдзельнічалі ў выставе "Лодзь-550" у 1974 годзе. Потым былі філатэлістычныя вернісажы "Лодзь-75", "Лодзь-87", "Серадз-77", "Пабіаніцэ-80". Двойчы мінскія філатэлісты прымалі ўдзел у выставах у горадзе Кутна. У 1986 годзе на выставе "Кутна-600", прысвечанай юбілею надання гораду гандлёвых правоў, было паказана шэсць мінскіх калекцый. Польскія калегі на гэтай выставе пазнаёміліся з цікавымі калекцыямі мінчан, якія расказваюць аб гісторыі рэспублікі, подзвігах беларусаў у гады вайны, прыродзе нашага краю. А мінскія філатэлісты павезлі памяць пра выставу -- спецыяльны паштовы штэмпель, у якім ёсць назва і нашага горада.

Апошні раз мінчане ўдзельнічалі ў філатэлістычнай выставе ў Кутна ў 1989 годзе. Яна прысвячалася 50-годдзю гераічнай абароны горада ў 1939 годзе. Вялікім поспехам на гэтай выставе карысталіся нашы калекцыі -- "Старонкі гісторыі Беларусі", "Старыя пісьмы Беларусі", "Прырода Беларусі", "Птушкі нашай рэспублікі". Я не агаварыўся, сказаўшы, што апошні раз мінчане ўдзельнічалі ў філатэлістычнай выставе... Сёння Беларускі саюз філатэлістаў -- арганізацыя грамадская -- зведвае вялікія фінансавыя цяжкасці і не мае магчымасці не толькі паслаць дэлегацыю беларускіх філатэлістаў на выставу да калег у Польшчу, але нават не ў стане адправіць туды некалькі калекцый.

Падобныя сумесныя выставы праходзілі і ў Мінску. Да дзвюх з іх былі выдадзены памятныя канверты і спецыяльныя штэмпелі.

За гады сяброўскіх кантактаў акрамя сумесных выстаў было праведзена некалькі цікавых сустрэч, на якіх абмяркоўваліся метады работы філатэлістычных клубаў, дзіцячых секцый, арганізацыя конкурсаў і г.д. Беларускіх філатэлістаў вельмі зацікавіў вопыт нашых польскіх калег у выданні спецыяльнага філатэлістычнага бюлетэня. Выходзіць ён у Лодзі на грамадскіх пачатках, карыстаецца вялікай папулярнасцю не толькі ў Польшчы,




але і далёка за яе межамі. У "Гісторыка-даследчым філатэлістычным бюлетэні" -- а так называецца гэтае выданне -- публікуюцца цікавыя матэрыялы па гісторыі пошты і філатэліі. У адным з апошніх ну ооў гэтага бюлетэня ў рубрыцы ркі, флагі і гісторыя" надрукаваны вялікі артыкул Вітольда Жураўскага пра Беларусь -- гісторыя рэспублікі праз прызму паштовых выпускаў розных краін, розных гадоў. Пра падобны гісторыка-даследчы часопіс бела кія філатэлісты пакуль толькі мар

20-годдзе сяброўскіх кантактаў паміж філатэлістамі Лодзі і Мінска было адзначана выпускам цікавых канвертаў і спецыяльным гашэннем. Але ўсё гэта было зроблена не ў нас, а ў Польшчы. Было выпушчана 9 відаў канвертаў з малюнкамі гістарычных каталіцкіх касцёлаў у Мінску -- Чырвонага касцёла святых Сымона і Алены, касцёла святой панны Марыі (былы касцёл і манастыр езуітаў). На адным з канвертаў -- першы герб Мінска, дадзены яму ў студзені 1591 года каралём Жыгімонтам III Вазай. Тэкст пад малюнкамі канвертаў на беларускай і польскай мовах. Сярод гэтых выпускаў былі таксама канверты з малюнкамі старадаўняга герба "Пагоні".

На жаль, у сённяшніх умовах Беларускі саюз філатэлістаў не змог такім жа чынам адзначыць юбілей кантактаў паміж беларускімі і польскімі філатэлістамі.

І ўсё ж беларускія філатэлісты спадзяюцца, што хутка і яны змогуць адправіць сваім калегам пісьмы ў канвертах з малюнкамі архітэктурных помнікаў рэспублікі, гербамі старых гарадоў, партрэтамі беларускіх паэтаў, пісьменнікаў, музыкантаў, мастакоў, вучоных... І мы спадзяемся, што нашы калегі за мяжой змогуць сабраць з гэтых паштовых выпускаў невялікую "філатэлістычную біяграфію" нашага краю.

**Леў КОЛАСАЎ.**







**Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя Згуртавання беларусаў свету "БАЦЬКАЎШЧЫНА"**

**Brest United Regional Organization of the World Association of Belarussians "BATSKAUSHTCHYNA"**

**8--9 кастрычніка 1996 года ў г. Брэсце адбудзецца Міжнародная навуковая канферэнцыя "БРЭСЦКАЯ УНІЯ 1596 года: ТЭАЛОГІЯ, ПАЛІТЫКА, КУЛЬТУРА", прысвечаная 400-годдзю падзеі. Аб сваім намеры прыняць удзел у канферэнцыі паведамілі вядомыя спецыялісты з Беларусі і замежжа.**

*На канферэнцыю выносіцца абмеркаванне наступных пытанняў:*
*— уніяцтва з пункту гледжання тэалогіі;*
*— унія і палітыка;*
*— уплыў уніі на нацыянальную адукацыю і культуру беларускага і ўкраінскага народаў;*
*— унія і нацыянальная самасвядомасць беларусаў.*

Тэзісы дакладаў аб'ёмам 1--4 старонкі машынапіснага тэксту, надрукаваныя праз два інтэрвалы, дасылайце, калі ласка, у 2-х экземплярах да 20 мая 1996 года на адрас: **224030, г. Брэст-30, абаненцкая скрыня N 14. Брэсцкая аб'яднаная рэгіянальная арганізацыя "Бацькаўшчына", праф. Яцкевічу С.А.** Паколькі атрыманыя матэрыялы будуць перадрукоўвацца, прытрымлівацца пэўных норм іх афармлення неабавязкова, але аргкамітэт просіць аўтараў паклапаціцца аб змястоўнай адпаведнасці дасылаемых матэрыялаў тэматыцы канферэнцыі, а таксама аб іх стылістычнай і арфаграфічнай дакладнасці. Да тэзісаў трэба прыкласці аўтарскую даведку з указаннем імя і прозвішча, вучонай ступені і звання, месца працы і пасады, адраса і тэлефона.

**Рэдкалегія пакідае за сабою права адбору матэрыялаў і (пры неабходнасці) іх рэдагавання. Зборнік матэрыялаў удзельнікаў канферэнцыі будзе выдадзены да пачатку яе правядзення.**

**Тэлефон для даведак: 26-25-14 (код г.Брэста: 8-0162).**

**АРГКАМІТЭТ.**

## СПОРТ

### ПЫТАННІ ЗАСТАЛІСЯ

Завяршыўся чэмпіяна ту па біятлону ў Германіі. У апошніх с тах беларуская каманда заваявала яшчэ адзін, бронзавы медаль. Гэта вызначыліся мужчыны, якія ў эстафетнай гонцы на дыстанцыі 4x7,5 кіламетра ўступілі толькі квартэтам з Расіі ("золата") і Германіі ("серабро").

На першы погляд, у гэтым відзе спаборніцтваў у нашых землякоў справы ідуць нядрэнна. Возьмем, для прыкладу, селетняе першынство свету. Зборная мужчынская каманда Рэспублікі Беларусь уваходзіць у лік мацнейшых. Яна ж, як і жаночая, у лідэрах на розыгрышы Кубка свету. Але гэта -- сёння. Відаць, нашым ветэранам ужо не пад сілу сапернічаць на роўных з маладымі.

Вось і ў Германіі ў апошняй каманднай гонцы наш вопытны біятланіст Аляксандр Папоў прыпаў уступаць на лыжні сваім канкурэнтам. І каб не яго трапныя стрэлы па мішэнях, магчыма, недалічыліся б мы такіх дарагіх медалёў на першынстве, што закончылася ў Германіі.

У жанчын іншая праблема. Самыя рэальныя магчымасці мелі яны заваяваць адно з прызавых месцаў у эстафеце 4x4,5 кіламетра. Добра пачалі гонку беларускія спартсменкі. І раптам нядача на трэцім этапе ў маладой Г.Бялан. Апошнія намаганні алімпійскай чэмпіёнкі Святланы Парамыгінай ужо становішча не паправілі: шостае месца -- не прызавое.

Адным словам, трэнерам нашых каманд ёсць над чым паразважаць. "Мець такую выдатную базу, як Раўбічы, дзе праходзяць спаборніцтвы першынства і Кубка свету, і не перамагаць, -- падкрэсліў адзін з трэнераў, -- мы проста не маем права".

### ЕЎРОПА ЗАНЕПАКОЕНА

І ёсць з-за чаго. Мацнейшыя хакеісты Расіі, Чэхіі, Славакіі, Фінляндыі, Швецыі... пакідаюць свае краіны і выязджаюць іграць за акіян. Еўропа ж, па сутнасці, не мае магчымасці атрымаць асалоду ад цікавых відовішчаў, якімі яе некалі радавалі спартсмены.

Вось чаму ўзнікла ідэя стварыць на нашым кантыненце сваю лігу ў процівагу НХЛ. Плануецца ўключыць у яе толькі самыя моцныя каманды Еўропы.

Магчыма, некалі туды трапяць і мінскі клуб "Цівалі". Хаця ў сёлетнім сезоне ён пакуль нас не радуе: не трапіў у фінал еўрапейскіх чэмпіёнаў, слаба гуляе і ў чэмпіянаце МХЛ.



**Нядзельная прагулка па старому парку.**

**Фота Аркадзя НІКАЛАЕВА.**

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:
220005, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і звярстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны,77). Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак.189. Падпісана да друку 19. 2. 1996 г.